# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1223) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 5 ЖНІЎНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



Я. Драздовіч, „Засценак Пунькі". Графіка. 1923 г. Фота Л. Ліпеня.

ЗРЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК

## Заблудаўская спальня

Заблудаў перш за ўсё з'яўляецца аграмаднай спальняй. Да працы — у Беласток, пагуляць — у Беласток, за пакупкамі — таксама ў ваяводскі цэнтр. І толькі нанач — дадому.

Нават мала хто і ведае, што гэты пасёлак ганарыўся гарадскімі правамоцтвамі ўжо тады, калі аб Беластоку нікому і не снілася. Гэтыя дзве святыні — царква і касцёл, — якія цяпер вызначаюць даўжыню пасёлкавага рынка, сваімі карнямі сягаюць менавіта таго часу, калі першыя іх зрубы ў XVI ст. фундаваў тут гетман Вялікага княства Літоўскага Рыгор Хадкевіч. Гэта пры ім у Заблудаве Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец адбівалі свае царкоўнаславянскія кніжкі з паясненнямі і каментарыямі на прастанароднай, значыць, старабеларускай мове.

*

Слава прагрымела і толькі адзываецца яна ў велічным гомане царкоўных званоў, або хаваецца сярод дрэў, што выраслі на зарэчным узгорку, дзе, праўдападобна, знаходзіўся магнацкі палац. Яе рэшткі асталіся таксама ў шыльдзе мясцовых улад, якія і па сённяшні дзень ганарацца гарадскімі правамоцтвамі.

Варта зрабіць яшчэ адзін крок па шашы ў бок Гайнаўкі і Міхалова, дзе стаяць тры цагляныя асабнякі, падобныя на сябе, як блізнюкі. Гэта ўжо прыкмета сучаснасці. Кажуць, што пабудаваў іх адзін агароднік для сваіх дзяцей. І сапраўды, падобных асабнякоў у Заблудаве з кожным годам усё больш і больш.

*

Адначасова горад Заблудаў з'яўляецца сядзібай прасторнай гміны, якая сваімі межамі падыходзіць ва ўпор да сцен Беластока. Амаль 35 тысяч гектараў плошчы, на якой першага студзеня 1979 года жыло дакладна 12 639 чалавек. Мала, бо на 1 квадратны кіламетр выпадае менш чым 40 чалавек, а гэта менш, намнога менш ад сярэдняй гушчыні насельніцтва ва ўсім Беластоцкім ваяводстве. Тут таксама адзначаецца ўплыў горада, дзе лёгка зачапіцца і знайсці працу. Таму не толькі адзін Заблудаў з'яўляецца спальняй для прамысловага ваяводскага цэнтра. Таксама і ўсе навакольныя вёскі кожны дзень высылаюць у Беласток сваіх жыхароў, пераважна маладых, працаздольных, а вечарам прымаюць іх назад. Аўтобусы ПКСу аж трашчаць ад перапаўнення.

*

І таму аж звыш 38 працэнтаў уласнікаў гаспадарак тут ужо ва ўзросце пенсіянераў і амаль палавіна зямельных угоддзяў Заблудаўскай гміны апынулася ў дзяржаўным або спулдзельчым уладанні. Апрацоўваюць гэтую зямлю спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Заблудаве, сельскагаспадарчы спулдзельчы камбінат у Рыбалах, спулдзельні прадукцыйныя ў Паўлах і Сальнічках, філіял ПГРу Ігнаткі ў Дабжынёўцы. Стан уладання гэтых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў будзе пастаянна пашырацца, бо ўжо вядома, што да 1995 года прыдзецца дзяржаве прыняць яшчэ звыш тысячу гаспадарак, якія не маюць у Заблудаўскай гміне сваіх наследнікаў.

І яшчэ адна, даволі характэрная прыкмета для жыхароў гэтай прыгарадской гміны: **двухпрафесіянальнасць**, значыць пастаянная праца на прадпрыемстве ці ва ўстанове і апрацоўка зямлі. Адносіцца гэта аж да 25 працэнтаў сялян з вёсак у наваколлі Заблудава.

*

Пры такіх умовах нялёгка кіраваць гэтай гмінай. Бо чым зацікавіць людзей, чым іх заахвоціць, каб засталіся ў вёсцы? Якую паказаць перспектыву?

Працяг на стар. 4



Найлепшыя ўмовы для жывёлагадоўлі маюць сяляне ў Фальварках, Рафалоўцы, Дабжынёўцы, Астраўках, Зацішшы...

КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

Ці даводзілася вам праходзіць каля пякарні? У Заблудаве каля пякарні адчуваеш такі арамат хлеба, як некалі на вёсцы, калі маці клала на лаву круглы бохан, выпечаны на лісцях капусты ў вялікай хлебнай печы. Заблудаўскі хлеб таксама пячэцца на лісцях капусты, хрэну ці аеру (татараку). Заблудаўскі хлеб можна пакаштаваць і ў Беластоку. Прадаецца ён у пяці пунктах. Але калі паявіцца на полках, хутка знікае, бо па смакавых якасцях не мае сабе роўных.

## ЯН АНТАНЮК

У чым сакрэт гэтай смакаты? У адпаведнай рэцэптуры. Яе апрацавалі тут, у Заблудаве, беластоцкія спецыялісты з гэтай галіны з удзелам кіраўніка заблудаўскай пякарні Яна Антанюка. Давялося правесці яму не адзін „бой", каб хлеб гэты быў названы „заблудаўскім".

Заблудаўская пякарня выпякае яшчэ тры іншыя гатункі хлеба, а ўсяго разам каля чатырох тон у суткі. Тут пякуцца таксама булкі, батоны, халкі, струцалі ды яшчэ восем сартоў піражнага.

Як сцвярджае Ян Антанюк, на якасць іх прадукцыі мае вялікі ўплыў добрая праца пекараў, іх клапатлівасць і саліднасць. А гэтая адданасць сваёй прафесіі ідзе ад кіраўніка пякарні і ўдзяляецца ўсім яго падуладным. Ян Антанюк, на якой толькі пасадзе не працаваў, заўсёды з высокай адказнасцю выконваў свае абавязкі. Прыйшоў ён працаваць у заблудаўскі ГС у снежні 1948 года. Яго ўклад у развіццё вясковага



гандлю значны. Працаваў ён у ГСе на многіх пасадах і вельмі доўга на пасадзе намесніка прэзаса да спраў гандлю. І калі выконваў функцыю першага сакратара Заблудаўскага камітэта ПАРП (а працаваў 8 год), таксама шмат удзяляў увагі справам гэтай установы. Ад 1970 года з'яўляецца ён кіраўніком пякарні заблудаўскага ГСу. Мае кваліфікацыі майстра хлебабулачных вырабаў.

Наведалі мы пякарню, якую ўзначальвае Ян Антанюк, у канцы чэрвеня. Быў сонечны дзень. Завялі мы гутарку аб працы пякарні, аб яе людзях і аб жыцці-быцці Яна Антанюка. Прыгануліся яму такія ж самыя сонечныя дні, калі ва Усходнюю Прусію, куды немцы вывезлі яго на прымусовыя работы, прыйшла Савецкая Армія. Пайшоў з ёю. Было гэта пад Кёнігсбергам. Але на перадавой не давялося яму быць. Затое браў удзел у ліквідацыі банд у Літве.

Пасля дэмабілізацыі, у летні сонечны дзень 1946 года, вярнуўся ён дамоў. Колькі шчасця было тады ў хаце!

— І далей жыццё, — кажа ён, — паплыло шчасліва.

Неўзабаве ажаніўся і спачатку працаваў у Трасцянцы каля Нарвы на бацькоўскай гаспадарцы. Там у 1947 годзе быў ён прыняты ў ППР. І ўжо больш як трыццаць год працы ў Заблудаве, гэта лічыцца. Стаў тут важ-

Працяг на стар. 4

## ШТО НОВАГА?

### АДРАДЖЭННЕ ЯНТАРНАГА ПАКОЯ

Сонечнымі фарбамі зноў зазззяе славуты Янтарны пакой Кацярынінскага палаца ў Пушкіне. Выканком Ленгарсавета прыняў рашэнне аб адраджэнні унікальнага каменярэзнага мастацтва пачатку XVIII стагоддзя, страчанага ў гады вайны.

Гісторыя Янтарнага пакоя поўная драматызму і таямніц. У 1716 годзе прускі манарх Фрыдрых Вільгельм падарыў Пятру Першаму янтарны кабінет, зроблены майстрам Готфрыдам Туса і архітэктарам Андрэасам Шлютэрам. Адведзенае для кабінета памяшканне ў палацы Царскага Сяла аказалася значна большых памераў. Архітэктар Барталамеа Растрэлі, які ажыццяўляў перабудову палаца, знайшоў арыгінальнае рашэнне: падзяліў янтарныя панелі люстранымі пілястрамі, мазаічнымі карцінамі, упрыгожыў столь маляўнічым плафонам. Па сутнасці быў створаны новы інтэр'ер.

У гады вайны гітлераўцы выкралі гэты бясцэнны шэдэўр. Пошукі янтарных панеляў, якія працягваюцца ўжо больш трыццаці гадоў, поспеху да гэтага часу не прынеслі.

Для ствараемага ў Калінінградзе музея янтару група ленінградскіх спецыялістаў выканала ў 1977 годзе ў адну пятую натуральнай велічыні мадэль Янтарнага пакоя. На мастацкім савеце мадэль была прызнана вельмі блізкай да арыгінала. Гэта ўдача, праектныя і тэхналагічныя даследаванні, выяўленыя ў архівах гістарычныя дакументы пацвердзілі магчымасць другога нараджэння Янтарнага пакоя.

„Сонечны камень" ленінградскім рэстаўратарам паставяць работнікі кар'ера „Янтарны" ў Калінінградскай вобласці. Яго спатрэбіцца шэсць тон. Работы мяркуецца завяршыць да 1990 года.

## ХРОНІКА

18.7.79 г. сакратар нашай рэдакцыі Ада Чэчуга была ўзнагароджана Сярэбраным Крыжам Заслугі, а рэдактар „Зоркі" Яніна Чэрнякевіч упісана ў Кнігу заслужаных Выдавецка-кальпартажнага прадпрыемства РСВ „Друк-Кніга-Рух" у Беластоку. Сардэчна віншуем!

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**135 гадоў назад**

5.8.1844 нар. І. Рэпін, рускі жывапісец.

**35 гадоў назад**

9.8.1944 пачалася бітва І бранетанкавай брыгады імя Герояў Вэстэрплятэ пад Студзянкамі (да 16.8.).

* * *

*7.8.1909 пецярбургская „Ніва" паведамляла, што карона, якую ўскладае на сябе англійскі кароль пры адкрыцці пасяджэнняў парламента, складаецца з сярэбраных абручоў, упрыгожаных масай каштоўных каменняў. Агульная ж вартасць кароны дасягае звыш 1 мільёна рублёў. Вага 5 фунтаў.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesełowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

**Wydawca:**
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1333. Nakład 6400 egz. S-2



*Палац мастацтваў у Мінску.* *Фота М. Гайдука.*

## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# „Бегі" Язэпа Драздовіча

Сонца спусцілася з полудня, і праз шкляныя сцены шыкарнага мінскага Палаца мастацтваў льецца струмень нясцерпнай спёкі. Сотні людзей ужо не месцяцца ў прасторным фае, расце натоўп перад уваходам, на ўсходнях. Прыбылі яны не толькі з Мінска і іншых беларускіх гарадоў, многія спецыяльна прыехалі ці прыляцелі з Вільнюса, Кіева, Масквы, Ленінграда, з зауральскага Свярдлоўска. Многа, вельмі многа шчырых любіцеляў і паклоннікаў мае творчасць **Язэпа Драздовіча.**

Належаў да таго велічнага пакалення творцаў, што дало для літаратуры Янку Купалу, для тэатра — Уладзіслава Галубка, для песні — Рыгора Шырму, унесла ў кожную дзялянку нашай культуры бясцэнныя каштоўнасці. Іх Я. Драздовіч ведаў асабіста, цешыўся і бедаваў разам з імі, служыў тым самым ідэям.

Нарадзіўся Я. Драздовіч у 1888 годзе на Дзісеншчыне (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці). Рана памёр бацька, і вялікая сям'я — шасцёра малых дзяцей — пайшла па ваколіцы пакутным шляхам наймальнікаў-арандатараў чужое зямелькі. Наколькі тады моцнае было ў дзіцячай душы жаданне мець свой уласны куточак, выявілася ў мастака аж пасля трыццаці пяці год у яго малюнку роднага засценка Пунькі, дзе з такой любасцю ён прадставіў і хатку, і клуньку, і хлеўчык, і раўнюсенькія радочкі бульбы ў агародчыку... І ўсё ж, наперакор неймаверным цяжкасцям, маці здолела адкрыць яму дарогу да адукацыі: спачатку ў суседняй Дзісне, а з 1906 года ў Віленскай рысавальнай школе. Хто ведае, ці часам не постаць Юзіка Драздовіча натхніла Змітрака Бядулю да напісання патрасаючага апавядання „Велікодныя яйкі"? Якое ж незвычайнае падабенства яго лёсу з лёсам малога мастака-пэцкуна ў апавяданні!

І вось выстаўку звыш паўтары сотні прац Я. Драздовіча адкрываюць усхваляванымі выступленнямі вядомыя беларускія мастакі: жывапісец і навуковы працаўнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута **Аляксей Марачкін** і графік, загадчык мастацкага фонду Саюза мастакоў БССР **Уладзімір Басалыга.** Перад партрэтам творцы — букет пунсовых ружаў у народным паліваным збане.

Я. Драздовіч адразу знаходзіць сваё месца ў жыцці: усяцэла аддае сябе беларускаму грамадска-культурнаму руху, становіцца актыўным удзельнікам усіх пачынанняў віленскага беларускага асяродка. Афармляе „Беларускі каляндар на 1910 год", зборнік беларускіх песень А. Грыновіча, здобіць першую кнігу вершаў К. Буйло „Курганная кветка". Нават служба ў войску ў далёкім Саратаве не гасіць у ім гэтага гарэння для роднай справы і адтуль ён дасылае ў віленскія выдавецтвы сваю графіку.

**(Працяг на стар. 4)**



*З усіх бакоў СССР з'ехалася на адкрыццё выстаўкі Я. Драздовіча мноства людзей.* *Фота С. Крыцкага.*





## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 3 VIII** — 7.40, 15.00, 20.35 Spartakiada. 8.35 Film fab. ser. 9.40 Koncert. 18.00 Film fab.
**Sobota 4 VIII** — 7.40, 20.35 Spartakiada. 12.30 Nie do wiary. 14.25 Filmy dla dzieci. 16.00 Koncert. 17.40 Film fab.
**Niedziela 5 VIII** — 7.40, 14.55 Spartakiada. 8.05 Koncert. 12.45 Koncert. 13.30 Filmy animowane. 13.55 Klub filmowy. 17.45 Panorama międzynar. 20.35 Balet.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** We władzy ojca — wł. 7—8. Przełomy Missauri — USA 9—10. Biały Mazur — pol. 11—12.
**Bielsk Podl.** Wierna żona — fr. 6—8. Rozumiemy się bez słów — czes. 9—10. Czarny korsarz — wł. 11—12.
**Czeremcha** Każdy ma swoje piekło — fr. 7—8. Rozwód z miłości — węg. 11—12.
**Czyże** 56 godzin na wagarach — czes. Ring — węg. 8—12.
**Gródek** Niewinne — USA 11—12.
**Hajnówka** Ostatni bal w Rożnowie — czes. 6. Czarne i białe w kolorze — fr. 8—10. Dr Bladen — jug. 11—12.
**Michałowo** Pojedynek — ang. 7—8. Asy przestworzy — ang. 9—10. Musisz żyć — NRD 11—12.
**Mielnik** Torba inkasenta — radz. 8. Zaproszenie — szwajc. 11—12.
**Milejczyce** Inna — pol. Magiczny kamień — NRD 8—12.
**Narew** Cienie gorącego lata — czes. Narodziny gwiazdy — USA 8—12.
**Narewka** Jak się budzi królewny — czes. Nie wychylać się — jug. 8—12.
**Nurzec** Rzeczpospolita babska — pol. 7—8. Dziki niedźwiedź Gawryło — radz. 9—10. Każdy ma swoje piekło — fr. 11—12.
**Orla** Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. Chłopiec z burzy — austr. 8—12.
**Rajsk** Partita na instrument drewniany — pol. Zagubione dusze — wł. 8—12.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

Я стаю ля цябе
як ля возера сіняга
магу узлядзець
над празрыстаю хваляй
каб промні прынесці
ад сонца ліпнёвага
і звіць з іх гняздо
для пяшчоты
магу апусціцца
у хвалю зялёную (
і між ракавін
і падводных каменняў
вышукаць ключык
ад шчасця блакітнага
толькі скажы
ці акно ў тваё сэрца
ёсць небам сінім
ці сінім азерцам

**Алесь Барскі**

* * *

Ах, калі б у залатую ноч
Я мог сабраць
Поўныя прыгаршні
Залітых радасцю
Вясёлкавых іголак!..
Я б да вуснаў
Іх падняў
І ў танцы
Снежнага маленства
— Памёр ад шчасця.

**Юрка Трачук**



ты
апрануты
ў маё маўчанне

я
ганю
твае словы

— многа іх
— зашмат іх

ты
ўкрадваешся
я
ўцякаю

* * *

— двое людзей
мы з табою
да канца

**Ваву**

## БАТЬКУВШЧЫНО...

Батькувшчыно міла,
Якая ж ты мні гожа,
Бы молода дывчына...
в очах мойіх похожа.
Тут прэдкув йе могілы,
І купол цэрквы сэрэбрысты,
І крыж схілівшысь дэрэвянны
пуд дубом розложыстым,
І рІычка, як бы змійка,
У пору вэсновую
Біжыт в зэлёнэ поле...
А жаворонкі нэбо
піснямы частуют.

* * *

Батькувшчыно міла,
Куточку мэйі мовы,
Я завшэ тэбэ помню
І стада журавлюв,
Што в нэбі голубому
Махалі на прошчанне
Мні
і краёвы родному.

* * *

Дзісь на душыі — так сумно...
Думкі повны нэпокою.

**Іван Кірызюк**

### УВАСКРАСАННЕ

Унутры ў мяне штось абарвалася
Ужо душа ляціць шэрай зазюлькаю
Проста на далёкі жалю могільнік
Я стаю задуманы ўстрывожаны

Ох не дай Бог даляцець зязюльцы там
Цела чую так і замірае ўжо (
Ці ж табе перагарулька-птушачка
Гаю роднага кідаці не шкада

Ажно мігам з неба сіняга
Наляцеў грозны каршун-разбойнік
Вось-вось схопіць зязюльку ў кіпцюры
Вось дастане яе сэрца шчэ жывое

Але раптам стаўся дзіва-цуд
То стралец паэт каханы яе друг
Выстраліў апошні свой патрон
І каршун зладзюга ўпаў вобземль

Ох як радасна на сэрцы зноў маім
Проста так і дыхаць хочацца
Чую ў звон ударылі чатыры салаўі
З чатырох старон роднай зямлі

Закавала шэрая зязюлька першы раз
Салавейкі навакол яе у шчэбет-свіст
Белыя бярозы косамі зялёнымі
Нахіліліся із чатырох старон

Выскачыў з-пад зелля-кусціка
Шэранькі праменьчык-зайчык як клубок
Стаў на задні лапкі а пярэдню ўбок
А пярэдняй правай дый вымахвае

Закавала другі раз зязюленька
Салаўі ў чатыры звон кларнецікі
Зайчык у прысюды так і йдзе
Проста міла паглядзець і смех бярэ

Аж тут раптам паявіўся дзіва-птах
То жар-птушка быццам з-пад зямлі
Зайчык хвацка павярнуўся жыва ў пляс
А жар-птушка крылом як махне

Коціцца ўжо наліўное яблычка дарожкаю
І не зайчык тут а сам прыгажун князь
Не жар-птушка каралева Бела Русь
Князь кланяецца крануўшы злато-пас

Каралева аксамітны туфелёк
З нагі шасць у кусцік кінула
Што за дзіва сем коней стаіць
Коні карыя ды белагрывыя

А на конях воі-рыцары
Шлёмы іх як сонцы зіхацяць
Закавала зязюля ўжо трэці раз
Толькі белыя бярозы зноў шумяць

**Ул. Гайдук**



Ты і я — верныя сабе, як пень зрашчэння,
Стаім пад лядзяшам замкнутага прастора,
У мяцеліцы вуалі пад снежным борам,
У спевах ветру, у арханёльным маленні.

Тут яднаюцца казачнасць і рэчаіснасць.
Час нам бесканечна даўжыцца і дзеліцца.
Зрэнкі свае шырыць белая мяцеліца —
Міласэрнасць вачэй таямніча зарыцца.

А ў цёмным боры тапырыцца ваўчыха,
Чорны воран старанна мерыць свае шанцы,
Мёрзласць к сэрцам падкрадваецца ціха-ціха...

Пакуль ледзяныя кінемся ў рытм самбы,
Пакуль у сон уступім з усмешкай на тварах,
У пячоры завеі запалім дзве лямпы.

**Юрка Баена**

* * *

плыву сярод цішыні раскалыханай
на хвалі з траў
на лугу зялёным
прападаю у праменнях залатога павука
мільёнамі ног уцякаючага ў шыр
скачу...
узлятаю сярод пер'я птушкі ветранай
шумам растанцоўваючым жамчужныя воблакі
падаю...
растапляюся у каляровых кветках
стаючыся як яны сном каляровым
...
прачынаюся — на імгненні хвіліны малой,
што толькі купінай мрояў была
на абалоне штодзённасці.

**Варвара Кваніш**

# ЛОТАЦЬ І ДРУГІЯ...

— Лотаць любіць Мушку.
— Мушка не любіць Лотаця.
— Мушка любіць Штампа.
— Штамп не любіць Мушкі.
— Штамп любіць Лотаця.
— Лотаць не любіць Штампа.
— Лотаць любіць Мушку.

І так бывае на свеце.

Адно ведаю, я люблю Лотаця, Штампа і Мушку, а яны і не ведаюць аб маім існаванні. І што ж я магу зрабіць?

— — —

Лотаць ехаў на каньках.

Хаця не быў у гэтым кампетэнтны. Пераканаўшыся ў гэтым, пайшоў сабе дахаты.

Чаму і другія гэтага не робяць?

Людзі, бярыце прыклад з Лотаця!

Больш ужо нічога не скажу.

— — —

Лотаць еў.
Бо быў галодны.
Еў што яму далі.
Бо быў ветлівы.
Лотаць захварэў.
Бо ёсць паслядоўны.
Лотаць зноў есць.
Бо мусіць.

— — —

Лотаць мой сябра, —
Сказаў Х.
Сябры маіх ворагаў — гэта мае ворагі, —
Сказаў У.
Лотаць нічога не зразумеў з гэтай камбінацыі.
А гэта нядобра!

— — —

Лотаць быў сумны.
Плакаў.
Хустачка прамокла, як на дажджы.
Штамп выкруніў яе, высушыў, выпрасаваў.
І пайшоў.
Лотаць быў сумны.

— — —

Лотаць цешыўся.
Засмяяўся ў хмары.
Хацеў танцаваць чарлестона.
А нельга! А нашто?!
Без музыкі?! Ды нямодны!!!

— — —

Лотаць філасофствуе.
Ужо Платон сказаў, што душа філасофа самая-самая з усіх душ на свеце.
Лотаця абсадзіў Штамп.
Лотаць ёсць лотаць, а не філасаф.
Лотаці не існуюць.
Значыць, Лотаць душы мець не можа.
Лагічна, га?

— — —

Лотаць знёс яйцо.
Чаму смяешся?! Чаму не змог знесці?
Лотаць умее рабіць многа розных карысных рэчаў.
На жаль, нічога не выседзеў.
Штамп яйцо прадаў. Як сваё.

— — —

Лотаць пляваў у недазволеным месцы.
Нельга!!!
Ведаў. Лотаць хацеў утапіцца.
На жаль, не узяў з сабою камня.
Ну што ж, прывычка. Думаў, што тыя, што пад ім капалі ямы, камня таксама не пашкадуюць.

**Міра Лукша**



В. Жуковіч

## Грыбное дзіва

*Нібы ў салдат, у нас кароткі збор.*
*Сыходзімся — хто з кошыкам, хто*
*з сумкай.*
*Нас памчыць машына скора ў бор,*
*Услед за нашай светлай думкай.*

* * *

*Яшчэ не развіднела. Нас у лесе*
*Не апярэдзіць пэўна сам ляснік.*
*Гляджу, як гасне ў небе месяц,*
*А ў думках бачу белы баравік.*

* * *

*А вось і ён, лес вераснёвы,*
*Дубовы лес і лес сасновы,*
*Лістота, мох і верасы,*
*На ўсім ляжыць краса расы.*
*Паветра чыстае, густое*
*Запахла травяным настоем,*
*І сонца ранняга прамень*
*Апавясціў пра новы дзень.*

* * *

*Напоўнен лес мой галасамі,*
*Маўчаць на досвітку дубы.*
*Мяне, сябры, не клічце — самі*
*Палохайце свае грыбы.*
*І лётайце, а мне спяшацца*
*Зусім пакуль няма чаго.*
*Хто скача ў лесе хуткім зайцам,*
*Грыбы ўцякаюць ад таго.*

*Пад дубам вырас, нібы дзіва,*
*Як рэпа, белы баравік,*
*І ад знаходкі я шчаслівы,*
*Гляджу, каб раптам ён не знік.*

*Грыбы — нібыта ўзнагарода*
*За ціхі крок, за вёрсты ўсе,*
*За тое, што да сонца ўсходу*
*Мяжу лясную перасек.*

* * *

*Здалёку бачу гэтым ранкам,*
*Дзе грыб схаваўся ад мяне.*
*Праходжу міма я — маланкай*
*Ён у вачах маіх мільгне.*

*І нетаропкі пільны пошук*
*Дае знаходку мне не раз,*
*І напаўняецца мой кошык*
*Грыбамі, быццам напаказ.*

* * *

*Здаля ужо чутны сігналы:*
*Шафёр склікае грыбнікоў,*
*І на палянку мы памалу*
*Сыходзімся з усіх бакоў.*

*Тут пахвала, тут смех і жарты.*
*Калі няма ў цябе грыбоў,*
*То як бы кош ні прыкрываў ты,*
*Усе убачаць твой „улоў“.*

*Ацэняць тут, на што ты здатны,*
*І ўколюць, брат, цябе не раз.*
*Але такі вось дзень выдатны*
*Ты будзеш помніць доўгі час.*

* * *

*Сягоння, як адна сям'я,*
*Мы пакідаем бор дзівосны.*
*Нас бор праводзіць, бы сваяк, —*
*Гудуць прыветна сосны.*
*А побач волаты — дубы*
*Далонямі лістоў махаюць.*
*Мы едзем, а ў вачах грыбы*
*І мітусяцца, і мільгаюць.*





С. Бойка

## Заданне

Група партызан збіралася на заданне. Андрэйка дапамагаў ім.

— Андрэйка, да камандзіра! — пачулася ў гэты час.

Хлопчык пабег да камандзірскай зямлянкі. Там ён крыху забавіўся. Калі ішоў назад, твар яго весела свяціўся.

— Што новага? — спыталі партызаны.

— Іду на заданне, — сказаў Андрэйка...

Хлопчык ішоў у вёску Збураж. Трэба было зайсці да сувязнога дзядзькі Міхала і забраць здабытыя ім звесткі пра мясцовы гарнізон. Вёска добра ахоўвалася, і дарослых туды не пускалі.

Андрэйка спяшаўся — хацеў, пакуль звечарэе, дабрацца да вёскі.

Лес расступіўся нечакана. Паказалася вёска. Навокал не стаялі вышкі. Што робіцца ў вёсцы, разглядзець было цяжка. Сонца садзілася за лес, і яго касыя прамені слізгалі па зямлі. На лузе хадзіла чарада кароў. Пастушкі збіралі іх, відаць, хацелі гнаць дадому. Андрэйка падышоў да пастушкоў.

— Добры вечар! — прывітаўся ён.

— Добры вечар! — адказаў старэйшы з іх і запытаў: — Ты куды ідзеш?

— Трэба солі купіць, — сказаў Андрэйка.

Хлапчукі паглядзелі на яго больш лагодна. Ён памог хлопцам сабраць кароў, і ўсе разам пагналі іх у вёску. Па дарозе Андрэйка даведаўся, што пастушкі браты. Старэйшага завуць Коля, меншага Міша.

Ля школы яны развіталіся. Хлапчукі пагналі кароў далей, а Андрэйка звярнуў у завулак і асцярожна агародамі пачаў прабірацца да хаты сувязнога. Андрэйка пастукаў у акно. На двор выйшаў гаспадар.

— У вас можна купіць грыбоў? — назваў Андрэйка пароль.

— Крыху ёсць, — пачуўся ціхі адказ.

„Значыць, усё ў парадку“, — падумаў Андрэйка і зайшоў у хату.

— Дай хлопцу паесці, — сказаў гаспадар жонцы.



Гаспадыня паставіла на стол міску бульбы і гладыш малака. Андрэйка з ахвотай еў бульбу, бо прагаладаўся за дзень. Жанчына стаяла каля печы і хусткай выцірала вочы:

— Да чаго дажылі. Нават дзецям і тым трэба хадзіць хаваючыся.

Дзядзька Міхал выйшаў з каморы і падаў хлопчыку паперку:

— Схавай. Гэта план умацаванняў нашай вёскі, якія рабілі немцы і паліцаі.

Андрэйка ўзяў паперку, схаваў яе ў патаемную кішэню. Потым яны пайшлі ў хлеў.

(Працяг на стар. 7)



## Паглыбляй свае веды

### АБ УСІМ ПАКРЫСЕ

* * *

Белае мора здаўна славіцца плантацыямі марской капусты, якая да гэтага часу загатаўлялася прымітыўным спосабам. Эксперыментальны карабель „Беламор“, сканструяваны ў Мурманску, з экіпажам з трох чалавек можа замяніць на гэтай аперацыі каля трохсот рабочых. „Косы“ „Беламора“ апускаюцца на глыбіню 10—12 метраў.

* * *

У Савецкай Сярэдняй Азіі расце кактус, на якім няма калючак. Яго ахвотна з'ядае жывёла. Кактус вельмі прыгожа цвіце — буйныя аранжавыя кветкі з перламутравым адлівам. Савецкія вучоныя вядуць селекцыённыя работы па скрыжаванню гэтага кактуса з больш марозастойкімі формамі.

* * *

Азербайджанскія вучоныя закончылі першы этап працы па выкарыстоўванню салёнай вады Каспійскага мора на паліўку раслін прыбярэжнай паласы сухога Апшэронскага паўвострава. Эксперыменту не вытрымалі міндаль, інжыр і вінаград. Але сасна, гранат, тамарыск, лох добра прыжыліся пры паліўцы марской вадой.

* * *

Міні-трактар сканструяваў А. Ганчырык, настаўнік з беларускай вёскі Канюхі. Усе дэталі, апрача матора, узятага з матацыкла, ён зрабіў сам уласнаручна. Цяпер настаўнік робіць уласную касілку і аднарадковую капалку. Міні-машынамі зацікавіліся спецыялісты Мінскага трактарнага завода, дзе збіраюцца прадукаваць міні-трактары.

* * *

У Таджыкістане (СССР), у Кулябскай вобласці, ёсць цікавы помнік старадаўнасці: дзесяць шасцісотгадовых дрэў — чынараў. Гэтыя дрэвы займаюць амаль гектар плошчы. Крона найбольшай чынары мае 50 метраў. Яе падтрымлівае шэсць зрослыхся ствалоў. У 20-я гады ў дупле чынары былі схаваны ад басмачоў рэдкія манускрыпты.

* * *

У пустыні Каракум можна закладаць плантацыі раслін. Участкі пясчаных барханаў пакрываюць 20-сантыметровым пластом гліны, затым пракладваюць каналы. І поле гатова. Такія плантацыі даюць амаль па 30 цэнтнераў бавоўны з гектара, добрыя ўраджаі пшаніцы і кукурузы. Выдаткі на сельскагаспадарчае загаспадаранне пяскоў вяртаюцца праз два гады.

* * *

Адным з прыгажэйшых гарадоў Смаленшчыны будзе горад Гагарын — радзіма першага касманаўта планеты. Зацверджаны комплексны план рэканструкцыі горада. Праспекты са шматпавярховымі дамамі працягнуцца ўздоўж ракі Гжаці. Будзе пабудаваны Музей касманаўтыкі, Палац піянераў, спартыўны комплекс, гасцініца.



(Працяг са стар. 3)

## Заданне

— Пераначуй вось тут на сене, — сказаў дзядзька Міхал.

Стомлены Андрэйка зашыўся ў сена. Ён выняў гранату, якую ўзяў на ўсякі выпадак у атрадзе, паклаў пад галаву і адразу ж заснуў.

Прачнуўся Андрэйка ад нечай гаворкі. Праз шчыліну заўважыў, што да хлява ідуць паліцаі з дзядзькам Міхалам.

— Бяры каня, — звярнуўся адзін з іх да гаспадара, — і хадзем з намі.

Дзядзька ўзяў каня, і ўсе пайшлі.

— Пранесла! — з палёгкай уздыхнуў Андрэйка і пачаў збірацца ў дарогу. Выйшаў на вуліцу і зноў убачыў учарашніх знаёмых. Яны гналі пасвіць кароў.

Сустрэліся хлапчукі як старыя знаёмыя. Разам з імі Андрэйка і выбраўся за вёску.

— Хлопцы, давайце падгонім кароў да лесу, — папрасіў Андрэйка.

— Нельга. З вышак будуць страляць.

Андрэйка задумаўся і спытаў:

— А да лесу блізка падпускаюць?

— Не, метраў за трыста ад лесу пачынаюць страляць, — адказаў Коля.

— Тады бывайце, хлопцы. Я павінен ісці. Можа, прайду, — сказаў Андрэйка і падаўся да лесу. Прайшоў палову дарогі, а потым пабег.

Коля і Міша глядзелі ўслед, затаіўшы дыханне.

— Эх, не вытрымаў! — з горыччу выгукнуў Коля і зірнуў на вышку. А вартавы ў гэты час павярнуўся, прыпаў да кулямёта і даў доўгую чаргу. Над галавой Андрэйкі праляцеў рой куль. „Страляюць, гады!“ — вылаяўся ён і з усяго разбегу ўпаў. Страляніна сціхла. Відаць, яго палічылі забітым. А лес быў зусім блізка. Хлопчык паварушыўся, і зноў рой куль праляцеў над галавой. Андрэйка ўскочыў, прабег некалькі метраў, потым упаў. Зноў кулі пранесліся над ім. Так паўтаралася некалькі разоў. Нарэшце Андрэйка абступілі сосны. На сэрцы стала радасна.

Хлопчык пахадзіў па лесе і балоце, блытаючы сляды, і накіраваўся ў лягер. Позна ўвечары дабраўся Андрэйка ў атрад.

— Таварыш камандзір! Заданне выканана! — далажыў ён.

## Гульні

### ПАЛЯЎНІЧЫЯ

Двое па выбару — „паляўнічыя“, усе іншыя разбягаюцца. „Паляўнічыя“ бяруцца за рукі і стараюцца злавіць у кальцо гуляючых. Злавілі... Ловіць наступнага... Двое злоўленых твораць наступную пару „паляўнічых“. І так кожная пара злоўленых робіць новую пару „паляўнічых“. Гульня заканчваецца, калі на пляцоўцы ўсе будуць пералоўлены.

### МАРШ

Усе становяцца ў шэраг на адлегласці выцягнутай рукі адзін ад другога. Па пададзенай камандзе ўсе спяшаюцца да вызначанага фініша. Крокам. Бегчы не дазволена! Хто дойдзе першым?

# Рэнесанс тэатральнай дзейнасці

Рэнесанс тэатральнай дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку наступіў чатыры гады таму назад. Намаганні і падсычванні з боку Я. Крупы, адказнага за гурткі самадзейнікаў, а таксама арганізаваныя ГП БГКТ агляды драмгурткоў станоўча ўплылі на ажыўленне тэатральнага жыцця ў мясцовым клубе. Арганізавалася група невялікая, але працавітая. Безупынныя рэпетыцыі, змаганні з уласнымі недахопамі прывялі беластоцкі беларускі драмгурток на сцэну аглядаў тэатральных самадзейных груп. Распачалі ад „Аглядзін" Бондарава. І пасля гэтага прарвалася. Пачалі працаваць поўным махам. З году ў год дзялілі сцэну з іншымі драмгурткамі на цэнтральных аглядах. „Аглядзіны", „Курган", „Мараль Наталлі Зотавай", „Прымакі", „Бацькоўскае благаслаўленне" — шлях тэатральнай дзейнасці беластоцкага драмгуртка. Рэпертуар сучасны, з гатовых сцэнічных твораў. Гатовых... Можа яно так і здаецца гледачу. Толькі трэба памятаць, што кожны з іх пісаны не для акцёраў-аматараў, а для прафесіяналаў і на сцэну з адпаведнай дэкарацыяй, умовамі. Дык трэба было браць гэты твор, выбіраць галоўнае, дапасоўваць да сваіх умоў, да сцэны, да іграючых асоб. Кожны твор, перанесены на сцэну нашымі самадзейнікамі, гэта пераапрацоўка і пастаноўка Янкі Крупы.

Групка акцёраў невялічкая — асоб пяць-шэсць. Многія памятаюць з цэнтральных аглядаў ці з нагоды нейкіх урачыстасцей Валю Шусту, Ірыну Рыбалт, Вальдэмара Пісанка. Сёлета пачаў працаваць у гуртку Міхась Куляга.

— Бярэм наогул аднаактавыя п'есы, бо і лягчэй дапасаваць да сцэны, і з колькасцю дзеючых асоб няма клопату, — гаворыць Я. Крупа. — Бярэм у асноўным бытавыя камедыі, каб быць бліжэй нашай штодзённшчыны.

— А да фальклору звяртацца не прабавалі?

— Па-першае, фальклорных калектываў у нас ёсць, ды такіх, для якіх тое, што мы лічым фальклорам, з'яўляецца нармальным днём, а яшчэ — мала нас, — адказаў Я. Крупа. — Некалі я думаў спалучыць драмгурток з вакальнай групай, нешта падобнае на оперу, але пакуль што гэта толькі ідэя.

**М. Шаховіч**

Фота Я. Целушэцкага



*Сцэна з „Аглядзін".*

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі:

**Марцелев С. В.**, Художественная культура Белоруссии на современном этапе, 1978, стар. 206, цана 26 зл.

**Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці,** 1978, стар. 256, цана, 40 зл. Кнігу складаюць артыкулы І. Навуменкі „Літаратура і НТР (навукова-тэхнічная рэвалюцыя)", М. Барсток „Паэзія", І. Чыгрын „Проза", С. Лаўшук „Драматургія".

**Кірэенка К.**, Выбраныя творы ў двух тамах, 1978, том І стар. 624, цана 44 зл., том ІІ стар. 400, цана 34 зл.

**Бялевіч А.**, Споведзь сэрца, 1978, стар. 87, цана 22 зл.
Кніга пра трагедыю Беларусі ў часе апошняй вайны.

**Савіцкі А.**, Скажы мне праўду, 1978, стар. 208, цана 9 зл.
У кнігу ўвайшлі дзве аповесці „Скажы мне праўду" і „Узаранае поле". Першая з іх пра праблемы беларускіх школьнікаў у наш час. Другая ж прысвечана цане, якую заплаціў беларускі народ у апошнюю вайну.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki" 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

## З думкай пра дзяцей

У Бельску ВСС „Сполэм" арганізуе многа культурных мерапрыемстваў з нагоды Міжнароднага года дзіцяці. Асабліва ўрачысты быў Дзень дзіцяці. Было багата культурных мерапрыемстваў у Бельску, а таксама экскурсія ў Аўгустова.

Ад 1 ліпеня бягучага года ў цэнтры „Практычная пані" ў Бельску аддзел ВСС арганізаваў паўкалоніі для ўсіх ахвотных дзяцей. Маюць яны тут розныя настольныя ігры, экскурсіі і г.д. На абед ходзяць у рэстаран „Падляська".

Кіраўніцтва аддзела паклапацілася пра стварэнне аддзялення для 25 дзяцей сваіх работнікаў у гарадскім прадшколлі ў Бельску.

Яшчэ ў бягучым годзе ў памяшканні цяперашняга цэнтра „Практычная пані", які будзе адсюль пераведзены, будуць арганізаваны яслі і амбулаторыя.

З думкай пра дзяцей у Бельску была адкрыта крама „Кайтэк" па вул. Т. Касцюшкі, у якой прадаюцца: марожанае, ахаладжальныя напіткі, крэмы, кандытарскія і хлебабулачныя вырабы.

У спажывецкай краме № 11 па вуліцы А. Міцкевіча таксама ёсць каляровыя столікі і крэслы для дзяцей. Тут могуць яны купіць сабе фрыткі, бульбяныя дранікі, хлебабулачныя вырабы і чай.

**(яц)**

## М. Шаховіч. З народных гаворак

**колуопніна** — прылада для часання ільну або канапель. Такую самую назву маюць і адыходы пры першым часанні. Стаў колуопніну, лён будэм чэсаті. До хліва трэба было сховатіся, а то віэтёр колуопніну по ціэлум пудвуоркові порозносіў.

**манька** — ляўша. Я й нэ віэдала, што вуон манька. Ну бач, а для манькі ліэва тое самэ, што тобіэ права.

**наодлукі** — рабіць абыяк. У його ўсё наодлукі робіцця. І то ціэлэ жыце ўсё наодлукі робіў.

**одгузарыэ** — ніжняя частка снапа. Заўтра поставляем, нэхай просохнут, а то ў одгузарах мнуого зіеля. Одгузарамі подавай.

**прысуошок** — акрайчык, першы кавалак хлеба, адрэзаны ад новага бохана. Возьмі прысуошок в кішэню. Мы, бывало, за прысуошкі то аж б'емся.

**шад** — іней, шэрань. Глянь, які шад на дэрэвіні. Я як рано вышла, то трава біэла од шаду была.

*(Ласінка, Нараўская гміна)*

## Фальклор

### ВЕСНАВАЯ




Ой, гыля, гыля, гусі, на воду —
людзі гавораць пра маю уроду.
Ніхай гавораць — Бог ім адплаціць,
ні буду свого веночка траціць,
бо мой веночэк ні по такому —
кажда кветочка па залатому,
бо мой веночэк едбабам віты —
ні аддам его за таляр біты.

*Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у студзені 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.*

## Ці ведаеце, што...

...на Беласточчыне ў гадах 1975—1978 сяляне пабудавалі ў вёсках 4536 дамоў і 5320 інвентарскіх будынкаў на 88 тысяч месц. (Для прыкладу, у 1978 годзе сяляне ўзялі 332 мільёны злотых інвестыцыйных крэдытаў). У той жа час земляробы купілі звыш 3,5 тыс. трактараў, 700 штук снопавязалак і значныя колькасці іншых сельскагаспадарчых машын.

...у нашай краіне дзейнічае 7700 клубаў (звыш 6000 на вёсцы).

**(яц)**



*А. Марачкін (злева) і У. Басалыга.*
*Фота С. Крыцкага.*

ў Віленскі беларускі музей і асабліва тады — запісваючы народныя песні, легенды, казкі. Яго ўласны свет заўсёды стаяў адной нагой у праўдзівым жыцці, другою — у казачным свеце. І гэты, казачны, быў яму таксама блізкі і свой, як праўдзівы. Усё жыццё яму спадарожнічалі словы яго роднай маці: „Вучыся і пазнай нябесныя бегі..."

„Бегі" жыццёвай вандроўкі Язэпа Драздовіча закончыліся 25 год таму назад, а „бегі" яго творчых здзяйсненняў асталіся жыць з намі і нашымі нашчадкамі.

„...Я іду па сцяжынках тваіх, дзядзька Язэп. Збіраю спадчыну тваю, што шчодра раздаваў ты людзям у тыя нялёгкія часы, і бясконца шчаслівы, калі знаходжу працу рук тваіх у абжытых сялянскіх хатах. Я пазнаю яе адразу. Творы тваё такія адметныя, незвычайныя... — прыгадвае той жа Аляксей Марачкін, адзін з адкрывальнікаў і папулярызатараў творчасці Язэпа Драздовіча. — ...Творы гэтыя бачыць мне даводзілася... прыбраныя ў ручнікі, чыстыя і светлыя, як дзень, урачыстыя і святочныя".

Такой была мая сустрэча з творчасцю Язэпа Драздовіча 17 мая гэтага года ў Мінскім палацы мастацтваў. Незабыўная...

**Мікалай Гайдук**

## Аўгалоскі

### ЧАМУ МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ З ВЁСКІ?

# ГОЛАС МАРАЛІСТА

Хаця П. Байко адлучаецца ад маралістаў і запрашае да дыскусіі толькі маладых, зрабіце, калі ласка, выключэнне і дапусціце мяне да голасу.

Галоўную прычыну таго, што моладзь уцякае з вёскі, П. Байко бачыць у тым, што малады чалавек на вёсцы пасля цяжкай працы „ад світання да змроку" не мае дзе адпачыць, бо на вёсках няма кіно, тэатраў, цырку, філармоніяў. Другая прычына — мала кватэр „з выгадамі". А трэцяя прычына, што на вёсцы малады чалавек не можа выявіць сваіх здольнасцей у галіне тэхнікі, прамысловасці, навукі, а толькі можа араць поле, сеяць, збіраць плён, гадаваць жывёлу. Падумайце, што за няўдзячная, няслаўная праца! Аж мурашкі лазяць па целе!

Пачну ад трэцяй прычыны. Ці сённяшняя моладзь ведае, як працавалі яе бацькі 30—40 гадоў таму назад? Большасць не ведае, ведаць не хоча і верыць не хоча. А вось тады была праца на зямлі — і цяжкая, і бескарысная, і, хоць сёння цяжка нават уявіць, як працавалі тады, — хлеб на стале часта быў вялікім госцем, ды і з бульбаю трэба было абыходзіцца асцярожна. Многія прадукты, такія, як рыс, манна, цукар, былі нязнаныя на вёсцы. Мяса, якое прадукавала вёска, нятледзячы на тое, што было 220 дзён у год посных, калі нельга было есці нават малака, а не толькі мяса, вось гэтага мяса і засквары не хапала нават на тыя няпосныя дні. Па вёсках хадзіў сумны, але трапны жарт. Лічылася, што хлеб вельмі смачны з бярозавым сокам, але ніхто гэтага не каштаваў, бо калі быў хлеб (восень), не было бярозавага соку, калі ж быў сок (вясной), не было хлеба.

Сённяшняя праца на вёсцы не такая ўжо цяжкая. Большасць работы робіцца машынамі. Такія рэчы, як тэлевізар, радыё, халадзільнік, — гэта ўжо рэчы, неабходныя на вёсках, так як неабходныя плуг, барана, ці сеўнік. І хоць селянін цырк, тэатр, філармонію глядзіць толькі ў тэлевізары, затое навочна бачыць дастатак на стале, у кладоўцы і ў халадзільніку. Ёсць жа на вёсках маладыя людзі, якія не лічаць працы на полі караю Божаю. Іх месячны заробак намнога перавышае заробак тых, якія паўцякалі з вёскі. Каб лягчэй яшчэ было працаваць, яны механізуюць свае гаспадаркі, мадэрнізуюць хлявы, за што атрымліваюць высокія ўзнагароды ад дзяржавы. Таксама як і ў горадзе, ёсць магчымасці на вёсцы паказаць сябе ў галіне тэхнікі, навукі і культуры. Факты — у кожнай вёсцы!

Другая прычына: дамы „з выгадамі". Лічу, што П. Байко мае знаёмых у горадзе, якія ўжо шмат гадоў чакаюць такіх дамоў, тым часам абыходзячыся без выгадаў. Пры малой нават ініцыятыве за гэты час на вёсцы стаяў бы прыгожы ўласны домік. Знайшліся б будаўнічыя матэрыялы і ўсё, што трэба. Факты — у кожнай вёсцы.

Першая — „найважнейшая" прычына. Кіно, тэатр, цырк, філармонія. Праўда, што ў горадзе малады чалавек можа штодзень пайсці, калі хоча ў кіно, нават і ў тэатр. Што датычыць цырка і філармоніі — з гэтым ужо горш. Зважыўшы, што адна філармонія прыпадае на 4 з гакам цяперашніх ваяводстваў, а цыркаў яшчэ менш, і калі гэтая філармонія ці цырк выязджае ў вялікі горад на гастролі, то шанц папасці ў цырк ці ў філармонію маладым людзям, усё роўна з горада ці з вёскі, амаль што аднолькавы. Вёска сёння мае свае матацыклы, свае таксі і спалучана з гарадамі аўтобуснымі лініямі. Прытым не ўсе з тых, што ўцяклі з вёсак, думаюць пра тэатры ці філармоніі. Большая частка з іх вольны час праводзіць пад кіёскамі з півам і нідзе лепш сябе не адчувае.

Дык чаму ж моладзь уцякае з вёсак? Індустрыялізацыя краіны вымагае больш рабочай сілы, якую дае вёска. Старыя паміраюць, ідуць на пенсію, іх месца займаюць маладыя. Адвечнае права жыцця.

Чаму масавая ўцечка? Вось гэта, лічу, стала модным. „Яго сын ці дачка ў горадзе, а мой сын ці дачка на яго будзе хлеб рабіць? Недачаканне! І мае

(Працяг на стар. 7)

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ



АЛЛА ПУГАЧЕВА

## ЦІКАВІНКА

Жыхару мангольскага Алтая Халайн Ахбаю споўнілася 118 гадоў, а яго жонцы Жыенбайн Хаміле — 114. Сёлета яны збіраюцца адзначыць брыльянтавае вяселле — стогадовы юбілей свайго сумеснага жыцця.

У іх нарадзіліся чатыры сыны і пяць дачок, прычым два сыны і дзве дачкі — блізняты. Цяпер у дружнай сям'і Х. Ахбая больш чым 130 патомкаў некалькіх пакаленняў.

Чыстае горнае паветра, лекавая вада, якой славяцца тутэйшыя мясціны, безумоўна, зрабілі дабратворчы ўплыў на здароўе доўгажыхароў. Да таго ж, з малых гадоў абодва яны прывычныя да фізічнай працы. Пэўны ўклад жыцця, умеранае харчаванне і нармальны сон — вось распарадак дня, якога яны прытрымліваліся на працягу ўсяго жыцця. Галава сям'і Х. Ахбай не пераносіць паху спіртнога і тытуню.

## СЭРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, усяляк я ўжо прабавала „ваяваць" з мужавым п'янствам — і добрым словам, і сваркаю, а ён як піў, так і п'е. Піў, калі яшчэ быў кавалерам. Але я пакахала яго, а ён мне абяцаў, што пакіне сяброў і гарэлку, калі ажэніцца. Мама прасіла, каб я пакінула яго. А я выйшла за яго замуж. Хутка нарадзілася дзіця, а муж не змяніўся. Сябры ды гарэлка, а ў хаце сваркі. Надакучылі мы і гаспадару, у якога жылі, загадаў выбрацца з хаты. Ледзь знайшлі мы другую кватэру. Але і тут не было спакою. Дзіця я аддала маме, а сама пайшла на работу. З работы дамоў страшна было вяртацца. А нядаўна муж мяне моцна пабіў і я пайшла жыць да сваіх бацькоў. Ужо мінула дзесятая гадавіна, як мы пажаніліся. Хутка атрымаем спулдзельчую кватэру. Мама кажа, каб я ўзяла развод, то я атрымаю тады кватэру асобна і асобна муж. Я баюся ісці ў гэту новую кватэру разам з мужам, але і не маю адвагі ўзяць развод. Як падумаю, што ўсё жыццё прыдзецца жыць ды выхоўваць дачку адной, страшна робіцца. А можа ў новай кватэры жыццё будзе лепшае?..

Галіна з Беластока

Галіна! Калі муж твой не змяніўся за дзесяць гадоў, не спадзявайся нічога добрага і на новай кватэры. Дзесяць гадоў — гэта немалы кусок часу вашага супольнага жыцця, а муж твой яшчэ ўмацаваўся ў алкагалізме. Спрабуй пагаварыць з мужам. Можа ён згодзіцца звярнуцца ў супрацьалкагольную парадню. Страшней жыць усё жыццё з алкаголікам, чым спакойна выхоўваць ужо падгадаваную дачку. Ды і разведзеныя жанчыны замуж жа таксама выходзяць.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Добры Астроне „Нівы"! Вельмі прашу цябе выясніць мне мае сны і сны маёй мамы.

Мне снілася вуліца, вялікі дом і многа моладзі з маёй вёскі. Мы ўсе сядзелі на бруку вуліцы, але я была разрэзана напалавіну. Другую, голую палавіну цела я накрыла плахтай. Моладзь падглядвала, і мне было вельмі сорамна. І вось прыехаў коньмі святы чалавек з крыжам на грудзях і пайшоў у той дом. Я яго раздзявала і адзявала. Мне было вельмі цяжка, бо ў яго быў вельмі доўгі кажух. У тым пакоі, дзе ён быў, была яго жонка, вельмі малая і калека. Калі я яго адзявала і раздзявала, моладзь кідала каменнямі ў вокны. На другую ноч я ізноў яго ўбачыла, ён мне перайшоў дарогу і пайшоў у поле.

Маме маёй снілася, што яна лётала над Балтыйскім морам. Было вельмі лёгка лётаць. Як махне рукамі, то быццам крыламі птушка.

У другім сне ёй снілася, што адзін гаспадар з суседняй вёскі (не бачыла калі) прыехаў і кругом нашай хаты заараў і пасеяў жыта. Ужо яно дзе ніжэй пачынае зазяленьвацца.

Твая чытачка Галя

**Чытачка Галя!** Нешта ў табе раздвоіцца (мо выйдзеш замуж або так нешта вельмі зменіцца). Святы чалавек, бадай, прынясе табе радасныя весткі, звязаныя з нейкім багаццем (гэты яго вельмі доўгі кажух). У сувязі з гэтым не пазбегнеш плётак, аб чым сведчыць тая жонка святога — вельмі малая і калека.

Што датычыць сноў тваёй мамы, дык яны вельмі добрыя і абазначаюць перамену на лепшае. Аб гэтым сведчыць і тое, што было ёй вельмі лёгка лётаць, і тое жыта, што зазелянілася. І тут таксама не абыдзецца без дапамогі нейкага добрага чалавека.

**Астрон**



*База шудзялаўскага СКРу ў Вастраве.* *Фота В. Рудчыка.*

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## КАПУСТА, МЕНШ ВЯДОМАЯ

### ЧЫРВОНАЯ КАПУСТА

Чырвоная капуста найчасцей падаецца сырою. Салаты з яе можна рабіць вельмі разнастайныя, змяняючы смак пры дапамозе яблыкаў, кіслых агуркоў, пораў, цыбулі.

Для падрыхтоўкі салатаў з чырвонай капусты найлепш раздрабляць капусту на бурачанай тарцы. Трэба сцерці цэлую капусту разам з качанам і сцябламі лістоў. Салату запраўляюць па смаку соллю, цукрам, лімонным сокам, а таксама муштардай і алеем.

Можна падрыхтоўваць і іншую салату з чырвонай капусты. Пашаткаваную капусту пасаліць, пасыпаць цукрам, спырснуць лімонным сокам і падаграваць каля 10 мінут у эмаліраваным посудзе (неабабітым). Капуста стане мяккай, але захавае ўсе каштоўныя якасці. Астудзіўшы капусту, да салаты дадаем па жаданню розныя дадаткі. Гэты спосаб падрыхтоўкі салаты з чырвонай капусты намнога лепшы ад традыцыйнага, паводле якога пашаткаваную капусту трэба было абварыць у вялікай колькасці вады, а гэта спрыяла выпаласкванню з капусты каштоўных складнікоў, паніжаючы якасць стравы.

Чырвоную капусту можна падрыхтоўваць таксама так, як белую капусту, вараную ў малой колькасці вады і засмажаную. Варыць яе трэба нядоўга (каля 15 мінут). Зварыўшы, дадаць лімоннай кіслаты, каб капуста мела прыгожы колер, а пасля заправіць засмажкай. Так звараная чырвоная капуста асабліва падыходзіць да гусяціны, качкі, а таксама да смажанай свініны.

### БРУСЕЛЬСКАЯ КАПУСТА

Маленькія качанчыкі брусельскай капусты багатыя вітамінам С, а таксама вітамінамі з групы В. Брусельская капуста з'яўляецца раслінай, адпорнай на мароз, і таму вырываюць яе з зямлі позняй восенню. Вырваныя расліны можна перахоўваць яшчэ 6—8 тыдняў, усадзіўшы карэннямі ў вільготны пясок у пограбе.

Перад тым, як будзем варыць, галоўкі капусты трэба ачысціць ад знешніх пажоўклых лісточкаў і дакладна памыць. Зварыць капусту ў пасоленай вадзе, дадаючы крыху цукру. Адцадзіць, на талерках паліць маслам, разагрэтым разам з цёртай булкай. Звараная капуста з'яўляецца вельмі смачным дадаткам да булёну, але можна з яе таксама падрыхтоўваць самыя разнастайныя стравы, рэцэпты на якія падамо ў бліжэйшы час.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Ішлі месяцы, а Колеў нібыта ў ваду кануў. Вайна скончылася тры месяцы назад, і, калі б Колеў быў жывы, яны, напэўна, ведалі б аб гэтым.

„Што магло здарыцца? Якая трагедыя тоіцца за гэтым таямнічым знікненнем?" — думаў Брусаў.

Ва ўцалелым ад бамбёжкі доміку ў раёне Понарт, на нічым непрыкметнай вулачцы Песталоцііштрасэ, непадалёк ад канцавога прыпынку трамвая нумар 15, у маладой удавы Гертруды Барант, муж якой нібыта загінуў на італьянскім фронце, пасяліўся яе стрыечны брат Франц Белоф, шафёр магістрата. Пасля другога налёту англа-амерыканскай авіяцыі Белоф страціў усіх і ўсё: жонку, дваіх дзяцей, кватэру. Сам цудам застаўся жывы, таму што ў той час знаходзіўся якраз у раз'ездах па наваколлі Кенігсберга.

Савецкія органы мелі патрэбу ў вадзіцелях і ахвотна прынялі Франца Белофа на работу. На старым студабекеры ён вывозіў за горад шчэбень і абломкі разбураных дамоў. Гертруда Брант уладкавалася прыбіральшчыцай у музейным упраўленні. Яна прыбірала кабінеты прафесара Брусава, доктара Родэ, савецкіх вучоных і музейныя памяшканні.

Дзіўныя гэта былі родзічы, а той, хто выпадкова пачуў бы іх размову, быў бы вельмі здзіўлены, што сам-насам Гертруда называла стрыечнага брата „панам оберштурмбанфюрэрам". Некалькі разоў на тыдзень да іх заходзілі нейкія цывільныя, ад якіх за вярсту несла ваеннай муштрой. Яны запіраліся разам з Францам у пакоі і доўга аб чымсьмі гутарылі.

І вось цяпер, ледзь толькі Белоф паспеў паабедаць, вярнуўшыся з работы, з'явіліся сябры. У пакоі на стале расклалі карты, хоць гуляць яўна не збіраліся. Самы высокі з гасцей сказаў:

— Усё гэта ставіць пад сумненне нашу далейшую дзейнасць. Вайна скончылася тры месяцы назад, і я больш чым упэўнены, што фюрэр загінуў у Берліне. А разам з ім загінула наша партыя. З таго, што пішуць бальшавікі і заходнія акупанты, вынікае, што яны там, у рэйху, заняліся зусім іншымі справамі, а не барацьбой. Кіраўніцтва СС уцякло ў Паўднёвую Амерыку, прымусіўшы народ здацца на міласць і волю пераможцаў. Некаторыя сядзяць у турмах саюзнікаў і чакаюць суда або стараюцца ўвайсці ў давер'е да новых улад, прапануючы ім свае паслугі. Астатнія думаюць толькі аб тым, як бы набыць багацце ў такой заварусе. Няма ніякага „Вервольфа" (дыверсійная арганізацыя неафашыстаў). А больш правільна, ён перастаў існаваць, не паспеўшы нарадзіцца. Толькі мы тут, як дурні, падстаўляем галовы за прайграную справу.

Франц Белоф нервова хадзіў па пакоі туды і назад. Потым спыніўся перад субяседнікамі і сказаў:

— Я кожны тыдзень у вызначаны дзень і гадзіну выклікаю па чарзе штабы, але ў эфіры цішыня. Працаваць вельмі цяжка, у любы момант мяне могуць накрыць. Магчыма, што фюрэра няма сярод жывых. Але калі нават гэта сапраўды так, мы абавязаны застацца тут і перачакаць, пакуль не вернуцца нашы. Бальшавікі і палякі падзялілі паміж сабой нашу Усходнюю Прусію. Цяпер справа ўжо не ў фюрэру і не ў нашай партыі, а ў тым, каб вярнуць Германіі нашы землі. Гэта неабходна ў імя нацыянальных інтарэсаў. Мы павінны чакаць, пакуль не адазвецца якая-небудзь станцыя. Я ўпэўнены, што яны яшчэ не апамяталіся і сядзяць, як мышы. Іншага выйсця няма.

Адзін з удзельнікаў сустрэчы жыва падтрымаў Франца Белофа:

— Мы дзейнічаем усляпую на свой страх і рызыку, але ўсё ж дзейнічаем. Па-мойму, мы не павінны пачынаць буйныя тэрарыстычныя аперацыі, інакш бальшавікі раскрыюць нас. Невялікія дыверсіі таксама дасягаюць сваёй мэты. Дзесьці вывесці са строю машыны на электрастанцыі, у другім месцы — элеватар у порце або адкруціць гайку, усё гэта дасць нядрэнны вынік, — пераконваў ён баязлівага калегу.

— Заўтра раніцай на гарадской сцяне з'явіцца цытата з Бісмарка: „Няма Германіі без Усходняй Прусіі". А мы яшчэ дапішам: „Няма Усходняй Прусіі без Кенігсберга!" — зноў падаў голас Белоф. — Выйдзем вечарам парамі. Ужо ўсё гатова. Нельга сядзець склаўшы рукі. Гэтыя надпісы ўмацуюць у жыхарах веру. Няхай ведаюць, што яны не адны.

— Пан оберштурмбанфюрэр, што можа зрабіць тузін людзей прадстаўленых самім сабе, кінутых на волю лёсу? — нясмела запярэчыў хтосьці. — Я быў у час вайны ў Польшчы і Расіі. Іх партызаны карысталіся ўсеагульнай падтрымкай, у іх было сваё кіраўніцтва падпольнай барацьбой, урад, ну і, нарэшце, ішла вайна, і яны верылі ў перамогу. Мы дзейнічаем самі па сабе, без падтрымкі з боку насельніцтва, без указанняў, ды і вайну сваю мы прайгралі. Закапаліся тут, як краты, а толькі наклікаем бяду на нашых суайчыннікаў. Няўжо вы думаеце, што бальшавікі такія дурні і не заўважаць нашай гульні? Адзінае выратаванне — гэта, выкарыстаўшы нашы фальшывыя дакументы, з'явіцца ў рэпатрыяцыйны пункт, каб як мага хутчэй выехаць у рэйх. У адваротным выпадку будзе позна, а я хачу жыць. У Любеку мяне чакаюць жонка і дзеці.

Яны яшчэ доўга спрачаліся, а калі, нарэшце, выйшлі, Белоф звярнуўся да Гертруды Брант:

З Гансам Шмітам час канчаць. Раскіс, панікуе. Калі ён трапіць у лапы бальшавікоў, то ўсё выкладзе, ды і наогул гэта небяспечны тып.

*(Працяг будзе)*

**Імпартгумар**

# ПАДАРУНАК—СЮРПРЫЗ

Трапілася неяк Мікіту Пятровічу кніга аб тым, як сябе паводзіць. Асабліва зацікавіў яго раздзел пра тое, што і калі трэба дарыць. Даведаўся ён, што падарункі могуць быць самыя розныя: да дня нараджэння, з нагоды якога-небудзь свята ці проста так, падарунак-сюрпрыз. Можна падарыць свайму таварышу якую-небудзь рэч, якая таму вельмі патрэбна або падабаецца.

— Паслухай, Зіна, — звярнуўся Мікіта Пятровіч да жонкі, — а што, калі я зраблю Сцяпану Антонавічу падарунак-сюрпрыз? Куплю яму электрабрытву. А то шкада глядзець на яго парэзаны твар.

Жонка заўпарцілася:

— Глупства вярзеш! Падарунак захацеў зрабіць! Табе многа дарылі?!

Але Мікіта Пятровіч зрабіў па-свойму. Купіў электрабрытву і назаўтра панёс яе на работу.

Сцяпан Антонавіч таксама працаваў у іх аддзеле. Калі Мікіта Пятровіч паднёс яму падарунак, збянтэжыўся. Ніяк не мог ацаніць, для чаго гэта Мікіта Пятровіч робіць яму падарунак: дзень нараджэння ўжо даўно прайшоў, свята таксама няма ніякага. Але рабіць няма чаго, трэба браць, а то ўсе звярнулі ўвагу. Яшчэ падумаюць, што ён грэбуе.

Да канца рабочага дня ён ужо не мог не толькі працаваць, але рэбусы разгадваць. Увесь час не давалі спакою думкі-пытанні: як зразумець Мікіту Пятровіча? Што яму трэба? Можа, рашыў купіць новы гарнітур, дык хоча, каб жонка мая дапамагла? На базе ж праце, ёй гэта няцяжка...

Пасля доўгіх спрэчак ён утаварыў жонку „прабіць" для Мікіты Пятровіча арэхавы гарнітур. Праз два дні асабіста даставіў яго таварышу. Той разгубіўся, а жонка яго ад радасці заплясквала ў далоні. Гэта ж падумаць — такі дэфіцыт, а тут самі прывезлі на кватэру!..

— Эўрыка, — усклікнула жонка Мікіты Пятровіча. — Бяжы хутчэй у магазін за новай электрабрытвай! Зробім падарунак-сюрпрыз Мікалаю Кузьмічу. Ён „дастане" для мяне норкавае футра.

Мікіта Пятровіч хмыкнуў і паджгаў у магазін.

**М. Сліва**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

## ŻEBY SIĘ LUDZIE KOCHALI

z repertuaru Barbary Dunin i Zbigniewa Kurtycza

słowa: Stefan Mrowiński
muzyka: Adam Skorupka

1. Ona: Tyle lat jesteśmy razem, tyle jasnych lat
czas był dla nas tak łaskawy, wiele słońca dał.
Byłeś dla mnie bardzo dobry, skąd to w tobie jest?
Ludzie mówią, że kochamy się...

Oboje: Bo we dwoje dużo łatwiej przez to życie przejść.
Bo dwa serca to nie jedno, a na duszy lżej.
I nieważne, że czasami trudno ciebie znieść,
lecz z tą złością jesteś ładny(a),
taki(a) ładny(a), taki(a) ładny(a)!

Oboje: Żeby się ludzie kochali,
nie potrzeba wielkich wydarzeń.
Nas złączył zwykły przypadek:
rozbudzone ptaki nad ranem.
Żeby się ludzie kochali,
tak potrzebny uśmiech na twarzy,
wiersze podobne do marzeń,
a na co dzień ona i on...

2. On: W twoich oczach ciągle wiosna, zawsze tamten maj.
„Narzeczona, panna młoda", wiatr się ze mnie śmiał.
Nie mówiłaś ani słowa, a po chwili: „Tak".
I poszliśmy wspólną drogą w świat...

Oboje: Bo we dwoje dużo łatwiej przez to życie przejść,
Kiedy smutek cię ogarnie, dobrze kogoś mieć.
A jeżeli choć na moment mamy siebie dość,
wtedy majem wiosna płonie,
wiosna płonie, wiosna płonie!

Oboje: Żeby się ludzie kochali...



**Ён мне слова, я яму два, ён мяне крыўдзіць, я яго абражаю, ён мяне загрудкі, я яго пад дых, ён мяне наводмаш, я яго напавал... „Дзень добры, суседзе!"**

# НІЧКА



— Абыходжу справа!

### ДАКЛАДНАЯ ДАТА

У час разгляду справы пра развод суддзя пытае задрыпанца:

— Калі, прыблізна, пачаліся сваркі ў вас?

— Не прыблізна, а дакладна — 8 верасня 1968 года.

— Але адкуль такая дакладнасць? — здзіўляецца суддзя.

— Такая дата запамінаецца на ўсё жыццё, — адказвае задрыпанец. — Гэта дзень нашага шлюбу.

### ПАВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

Васьмідзесяцігадовую задрыпанку пытаюць:

— Чаму вы не носіце акуляраў?

— Я б насіла, ды мой стары кажа, што яны мяне робяць старою.



*Made in Zadrypanka*

### ПАРАДА

Нешта ўжо ў апошні час,
Кажуць у народзе,
Аж залішне сярод нас
Кніжкі сталі ў модзе.

Ставяць іх уздоўж сцяны
І бяруць без меры.
Упрыгожваюць яны
Інтэр'ер кватэры.

Часу мала іх любіць
І чытаць іх — мала.
Мусіць, кожны хоча быць
Інтэлектуалам...

Зойдзе сябар ці сусед —
Шчасця гучна зычыць.
Сам жа цэліць неўпрыкмет
Кніжку „запазычыць".

А сароміцца чаго ж?
Простая карціна.
Гэта ж, лічыць, не крадзёж:
Браў не з магазіна.

Вам для кніжак для сваіх —
Гэта проста згуба.
Як пазбавіцца ад іх,
Гэткіх „кнігалюбаў"?

А рабіце ўсё працей,
Асцярожней крышку:
Сустракаючы гасцей,
Сцеражыце кніжкі.

**Мікола Вяршынін**

### ЯШЧЭ НЕ НАВУЧЫЛАСЯ

На рынку, каля воза, стаіць бацька з хлопчыкам. Прадалі ўсё, што прывезлі, бацька добра выпіў...

Побач праходзіць нейкі мужчына з клункам, а ў ім — парася.

— Цюценя дзядзька панёс, — тлумачыць бацька сыну.

Парася варухнулася, рохкнула.

— А чаму ж яно не гаўкае? — дапытваецца хлопчык.

— Яшчэ не навучылася.

### НЕ ЗВАЖНАСЦЬ

— Уяўляеце, калі я іграў на скрыпцы, сусед разбіў маё акно!

— І дарма: цяпер яшчэ лепш будзе чуваць.

### У РЭСТАРАНЕ

Наведвальнік: — Афіцыянт, гэта ж не суп, а нейкая вада!

Афіцыянт: — Не нейкая, а вараная!

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ГЭТА ЦІКАВА

У дзетсадзе № 5 існуе напісанае правіла: бацькі, якія прыйшлі за сваімі дзецьмі са спазненнем, выбіраюць дзіцё з тых, што засталіся.

### ПЫТАННЕ ЗАДРЫПІСАРА

Ці заменіць вялікі запас слоў убогі запас думак?



**Без слоў.**

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### БАДАЙ АДНОЛЬКАВА...

Было гэта ў царскай арміі. Выстраіліся аднойчы салдаты, а фельдфебель крычыць:

— Кажушкін, выйдзі са строю!

Ніхто не выходзіць.

— Кажушкін, выйдзі! — чуецца зноў.

Ніхто не выходзіць.

— Кажушкін, ты што — аглох?! — грымнула начальства трэці раз.

Ніхто не выходзіць.

— Ах ты, такі гэтакі! — аж завыў з лютасці фельдфебель. Ды як схопіць крайняга салдата за штрыфелі:

— Ты чаму не адзываешся?

— Ды я Шубін, ваша благароддзе!



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Хірург, які толькі што зрабіў аперацыю, звяртаецца да апераванага:

— Баюся, што вымушаны засмуціць вас, гер Штарке. Я, здаецца, па рассеянасці забыў у вас у жываце пальчатку. Давядзецца аперыраваць вас яшчэ раз.

— Што рабіць, доктар, раз трэба, калі ласка. Але ў такім выпадку ці не лепш мне зрабіць жывот на гузіках?

*

Гарадская жыхарка ехала па сельскай дарозе і ўбачыла двух сувязістаў, якія карабкаліся на тэлефонныя слупы.

— Вось ідыёты! — пагардліва фыркнула яна, адвярнуўшыся да сваёй спадарожніцы. — Яны, напэўна, падумалі, што я ніколі не кіравала аўтамабілем!

*

— Колькі каштуе ваша карціна?

— Пяць тысяч долараў.

— Вы з глузду з'ехалі! Можна падумаць, што вы памерлі прынамсі пяцьсот год таму назад!



## КУРЪЁЗЫ

### БАНКЕТЫ З СУМНАЙ НАГОДЫ

Ва ўсім свеце вядома імя знакамітай англійскай пісьменніцы Агаты Крысці, якая праславілася шэрагам дэтэктыўных раманаў. Чытачы-землякі захапляліся яе вострымі, канфліктнымі сюжэтамі і, прачытваючы кожны новы яе твор, чакалі выдання наступнага. Але калі яна памерла, пра яе сталі забываць на радзіме, імя яе стала ўспамінацца ўсё радзей. Ва ўсялякім выпадку так здалося яе састарэламу мужу Максу Малавану. Ён усяляк змагаўся за тое, каб імя пісьменніцы надоўга засталося ў памяці людской, а паміраючы праз год пасля смерці жонкі, завяшчаў грамадскасці кожны дзень яе нараджэння адзначаць вялікім банкетам, ахвяруючы на кожны такі банкет аж 5 тысяч фунтаў стэрлінгаў са сваіх зберажэнняў. Многім гулякам такая перспектыва хоць раз у год напіцца і наесціся да адвалу на дармаўшчыну прыйшлася да спадобы, і яны толькі і гавораць цяпер пра шчодрасць нябожчыка Макса Малавана. Другія не пляскаюць у ладкі, але таксама лічаць рашэнне мужа пісьменніцы разумным і справядлівым. Мауляў: добра прыдумана: і пісьменніцу будзе дзе і калі ўспамінаць, і пачастункі гэтыя па сутнасці за кошт чытачоў, якія куплялі яе кніжкі, бо гэта ж яе літаратурныя ганарары сталі зберажэннямі яе мужа. А іншыя ацанілі гэты фарс як непатрэбную прыхамаць сытага чалавека, які б мог паспачуваць бедным людзям і лепш завяшчаць гэтыя грошы нейкаму сіроцкаму дому.

## МІЖ НАМІ

**Нават калі ты сем разоў адмерыў, няхай адрэжа іншы. На ўсякі выпадак.**